# Паустанчы рух у Літве.

### Паўстаньне далей трывае?

Рыжская газэта „Яунакас Зінас“ наказуе, што паўстанцы, разагнаныя войскам, уцяклі з Таўрогаў у лясы і тамака стварылі партызанцкі атрад. Партызаны робяць напады на ўрадавыя ўстановы.

Гэтак партызаны ўварваліся ў мястэчка Юрбург, заарыштавалі паліцыянтаў, якіх пасьля самі ж звольнілі, і пайшлі сабе, забраўшы толькі каманданта паліцыі. У суседнім лесе каманданта паліцыі крэпка высьцябалі і адаслалі назад у мястэчка.

Рэвалюцыйныя настроі ахопліваюць і армію. Гэтак у Кейданах фашыстаўская ўлада заарыштавала падафіцэраў артылерыйскага дывізіёну, западозраных у спагаданьні апазіцыі. У самай сталіцы — Коўне — некалькі вайсковых часьцін расфармавалі з прычыны таго, што сярод жаўнераў выявіліся праціўрадавыя настроі.

У Мажэйках было гэтулькі арыштаваных, што іх ня было дзе трымаць.

### Замах на парахоўню ў Коўне.

У Коўне на тэрыторыю парахоўні, дзе зложаны вялікія запасы выбуховых матэрыялаў, забраліся ўначы нейкія людзі—як думаюць, каб узарваць парахоўню. Узьнялася страляніна. Замахоўцаў заарыштавалі. Асобы іх ня высьнены.

### Сьмяротныя прысуды ў Літве.

Ваенна-скарастрэльны „суд“ у Таўрогах разглядзеў ужо справу 22 абвінавачаных у паўстаньні проці „законнай улады“ фашыстаў-замахоўцаў 17 сьнежня 1926 г... „Суд“ прысудзіў 8 з іх да кары сьмерці, 9—у турму да сьмерці, рэшту — па 20, 10 і 3 гады катаржнага вастрогу.

7 спаміж засуджаных на сьмерць „памілаваны“ прэзыдэнтам, але 8 ага расстралялі. Уся маемасьць засуджаных на дажывотнюю катаргу „сканфіскавана“.

### Высылка ў канцэнтрацыйны абоз.

З Коўны высланы ў канцэнтрацыйны абоз у Ворнях 14 асоб, якіх урад лічыць „неблаганадзёжнымі“.

У Панявежы арыштавалі ведамага старога літоўскага адраджэнскага дзеяча—сацыяліста, доктара Дамашэвіча.

### Хто гаспадарыць у Літве.

Рыжскі „Социяльдэмократ“ піша, што фактычна ўрад Вальдэмараса ня мае сілы, і пасьля паўстаньня ў Таўрогах уладу захапіў афіцэрскі камітэт — з ваенным мінстрам Даўкантасам і палк. Плехавічіўсам (які рабіў фашыстаўскі пераварот) на чале. Камітэт гэты і дае ўсе загады аб арыштах і расстрэлах, а суды выпаўняюць адно толькі нягодную камэдыю.

Вайсковыя каманданты паасобных мест зараз жа пасьля перавароту ў Таўрогах зрабілі подлую правакацыю: яны звэрачаліся да паасобных палітычных дзеячоў, паведамляючы іх аб пераварoце і пытаючыся аб іхніх адносінах да яго. Хто выявіў свой спогад паўстанцам, тых паарыштоўвалі.

### Афіцыяльнае прызнаньне Вальдэмараса.

У бытнасьць сваю ў Рыме — у гасьцёх у Мусоліні — Вальдэмарас у сваей прамове заявіў адкрыта, што Літва йдзе па сьлядох фашыстаў, бачучы ў фашызьме адзіны ратунак для сябе.

А вось яшчэ так нядаўна розныя фашыстаўскія падлізьнікі сярод віленскіх літвіноў брахалі на нас за тое, што мы стала называем уладу захватчыкаў у Літве — фашыстаўскай!

---

ліпца ўвесь Трактат Міру, дык усё гэта для Нямеччыны—толькі заклік да таго, каб аб‘яднацца ўсенародна навакол акцыі, распачатай Прэзыдэнтам...

Орган Штрэзэмана „Тэгліхе Рундшаў“ піша:

„Вэрсальскі Трактат накінены нам пад пагрозай рэвальвэраў. Немцы былі згвалчаны ў Вэрсалі—побач з згвалчанай там праўдай і справядлівасьцяй. Але тыя, што гвалцяць праўду, ня ўтрымаюцца ніколі на даўжэйшы час“. У канцы афіцыёз міністэрства замежных спраў выразна сцьвярджае, што прамова прэзыдэнта была згары ведама ды адобрана ўрадам...

Цэнтравая „Дойчлянд“ таксама сцьвярджае, што Рэспубліка ніколі „ня прызнае вэрсальскага прысуду справядлівым“.

Мы ня будзем прыводзіць масы водгукаў абуранай францускай і англійскай апініі ў яе прэсе. Дамо толькі водгук на гэтыя водгукі—у нямецкай прэсе.

Той-жа орган гр. Вэстарпа піша:

„Шалёнае абурэньне, якое прамова прэз. Гіндэнбурга выклікала ў францускай і англійскай прэсе, даводзіць толькі найлепш, наскольні яна была мэтнай ды патрэбнай“... „Якраз даўно пара было рашуча напомніць усім гэтым паном у Парыжу ды ў Лёндане, што Нямеччына ніколі ня прызнае накінутага ей Трактату, пабудаванага на ілжы ды фальшывым абвіненьні“...

### Масавыя арышты проціфашыстаў.

У італьянскім месьце Равэньне даведзенае да роспачы насяленьне пачало папросту біць фашыстаў, дадзеўшых яму сваімі гвалтамі і зьдзекамі. У сувязі з гэтым фашыстаўскія ўлады распачалі масавыя арышты насяленьня. Арыштаваны агулам трыста асоб.

### Новая змова ў Партугаліі.

У сталічным месьце Партугаліі, Ліссабоне, зроблены масавыя арышты сярод цывільнага насяленьня і сярод вайсковых. Зачынены цэлы рад публічных памяшчэньняў, як рэстараны, кавярні і інш. Паводле газэтных вестак, арышты выкліканы выкрыцьцем паліцыяй новае змовы проці існуючага ўраду.

### Рэзультаты выбараў у Ірляндыі.

Рэзультаты выбараў у Ірляндзкі парлямант далі нязначную большасць урадавай партыі, якая стаіць за паразуменьне з Англіяй. Дагэтуль групы ўрадавыя атрымалі 72 мандаты, апазіцыя — 68 мандатаў. Адносна рэшты 13 месцаў вестак яшчэ няма.


СКРЫПКІ ад 19 зл. і даражэй
ГІТАРЫ „ 28 „ „
МАНДАЛІНЫ „ 16 „ „
БАЛАЛАЙКІ „ 14 „ „
ФУТЛЯРЫ да іх „ 12 „ „

Работы ўласнай майстроўні высылае ў-ва ўсе мясцовасьці рэспублікі па атрыманьні ўсяе вартасьці.

Перасылка па тарыфе.

Адрас: Wilno, ul. Wiwulskiego 18/4.

Mikołaj Dzieszkin,
kapelmistrz.

8—7


## Прарыў проціўбеларускага фронту.

Таварыства Беларускае Школы—пасьля доўгіх дамаганьняў — дастала нарэшце ад Віленскага Куратарыуму слоўны адказ на пытаньне, дзе і якія беларускія школы будуць сёлета адчынены ў межах дзейнасьці Віленскага Школьнага Округа — на падставе паданых бацькамі дэкларацыяў.

Як ведама, лічба дэкларацыяў, якія былі пададзены школьным інспэктарам на беларускія школы, вымагае адчыненьня **некалькіх сотняў беларускіх школ.** Сколькі-ж гэткіх школ адчыняе сёлета Віленскае Куратарыум?

Лічбы, якія падало Куратарыум прадстаўніку Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы, выглядаюць прост сьмешна! Гэтак адчыняюцца **чатырнадцаць школ чыста беларускіх і дзесяць двухязычных—польска-беларускіх (утраквістычных).** Вось усё, што дае польскі ўрад у адказ на дамаганьне роднае школы, заяўленае ў адным толькі леташнім годзе **дзесяцьма з лішнім тысячамі** бацькоў-беларусаў...

Няма ведама: ці трэба з гэтага сьмяяцца, ці—плакаць. Няма ведама такжа, як будзе выглядаць на дзеле беларускасьць новаадкрываных школ: ці будуць у іх вучыць праўдзівыя настаўнікі-беларусы, ці—розныя навозныя палякі, якія атрымалі „беларускія кваліфікацыі“ на... масячныхх курсах беларускае мовы! Ды не аб гэтым хочам тут казаць. Мы хочам зьвярнуць лішні раз увагу беларускіх масаў на тое, што гэтыя кольківадцаць беларускіх урадавых школаў—гэта-ж наша **першая**, хоць і маленечкая, **здабыча ў барацьбе за родную школу.** Гэта — доказ, што дружнае выяўленьне волі беларускіх бацькоў у справе роднае школы здолела ўрэшце прарваць той проціўбеларускі фронт, на які мы ўсьцяж натыкаліся і натыкаемся ў нашых асьветных справах. Гэта — доказ, што пры нашым цьвёрдым жаданьні, пры нязломнай пастанове дабіцца свайго, дабіцца беларускае ўрадавае школы, ня гледзячы на ўвесь адпор з боку школьных уладаў,—**магчыма**. І мы, пасьля гэтае першае дробнае перамогі, мусім сёлета **падвоіць нашы высілкі**, мусім **засыпаць інспэктараты падвойнай лічбай школьных дэкларацыяў**, каб пашырыць нашыя здабычы на культурным фроньце змаганьня за нашу нацыянальную волю.

Заклікаючы да энэргічнае працы над арганізацыяй падачы сёлета школьных дэкларацыяў, мы падаем — дзеля агульнага ведама—дастаўлены нам сьпісак новаадкрываных беларускіх і польска-беларускіх урадавых народных школ:

**Пастаўскі павет:**

Гулі, Жасьнянск. гм.—белар. шк.—1 кляса.
Старыя Габы „ „ —белар. шк.—4 клясы.

**Дзісьненскі павет:**

Шаркаўшчына, Шарк. гм.—двуязычн.—5 кл.
Малажаны, Докшыцк. гм.—белар. шк.—2 кл.
Баяры, Пліская гм. — — двуязычн.—2 кл.
Руднікі, Празароцк. гм.—двухязычн.—2 кл.

**Вялейскі павет:**

м. Вялейка — — — двухязычн.—7 кл.
Коловічы, Вялейск. гм. двухязычн.—5 кл.
Ценцевічы, „ „ белар. шк. — 2 кл.
Халопы, „ „ белар. шк. — 2 кл.
Варонічы-Карал., Куранецк. гм.—бел. шк. 1 кл.
Журыхі „ белар. шк. — 1 кл.
Рэчкі „ двухязычн.— 2 кл.
Туроўшчына „ белар. шк. — 1 кл.
Каралеўцы, Вайстам. гм. белар. шк. — 1 кл.
Клаўсі, Касьцянев. гм. белар. шк. — 2 кл.
Хаценчыцы, Хаценч. гм. двухязычн.— 4 кл.
Осава, Крывіцкае гм. — двухязычн. — 1 кл.
Выхалавічы „ „ белар. шк. — 2 кл.
Іжа, Іжанскае гм. — — белар. шк. — 2 кл.
Слабада, „ „ — — белар. шк. — 2 кл.
Таўць „ „ — — белар. шк. — 2 кл.

**Маладэчанскі павет:**

Насілава. Лебедзеўск. гм.—двуязычн.—2 кл.
м. Маладэчна „ „ двуязычн.—7 кл.

Характэрна, што школы гэтыя адкрываюцца толькі ў чатырох паветах. Двуязычныя — бадай заўсёды вышэйшага тыпу, чым беларускія...

## ХРОНІКА.

**Наш юбілейны нумар.** Сягоньня мы выпускаем наш 50-ты нумар. Гэта—ад часу выбараў у Сойм 1922 году — першы выпадак, што радыкальная беларуская газэта выпускае свой 50-ты нумар. Дагэтуль „рэкордную“ цыфру 42 нумароў дасягнула толькі газэта „Змаганьне“.

**Следзтва ў справе „Грамады“.** Ня гледзячы на заяву „Слова“, быццам сьледзтва ў справе заарыштаваных грамадаўскіх дзеячоў і пaслоў—закончана,—у працягу гэтага тыдня адбываліся ў Вільні дапросы цэлага раду былых грамадаўцаў. Гэтак, як відаць, сьледзтва трывае далей.

**Выстаўка беларускае і ўкраінскае прэсы** ў Варшаве адчынілася 21 верасьня і будзе трываць тыдзень—да 28 верасьня. Уваход—бясплатны.

**Тэатр для вёскі.** Пасьля ўдалага выезду ў Тургелі, драматычная дружына Т-ва Беларускае Школы ў Вільні ў гэту нядзелю едзе на гасьціннае выступленьне ў Яшуны.

Пастаўлена будзе „Паўлінка“ Янкі Купалы, пасьля спэктаклю — дэклямацыя і інш.

Шчыра пажадаем нашым артыстам — добрае ўдачы!

**Правакатары ня сьпяць.** Орган Ярэміча і Рагулі, які за сваю спэцыяльнасьць абабраў сталае **правакаваньне беларускіх арганізацыяў і дзеячоў**, што не пайшлі на подлае выслугоўваньне буржуазіі, — выдумаў новы способ барацьбы з сваімі **аднадумцамі-сельсаюзьнікамі**, якія запратэставалі проці здрадніцкай работы Эрэміча, Рагулі і іх трэцяга кумпана—Більдзюкевіча. Зьбянтэжаныя зладжаным сельсаюзьніцкай апазіцыяй зьездам, які заклеймілў гэных панкоў і іх палітычнае спэкулянцтва, яны ў апошнім нумары „Сял. Нівы“ зьмяшчаюць у перадавіцы чарговы **ілжывы данос** на грам. Луцкевіча, як на „камуніста“, а ў сярэдзіне нумару пішуць, быццам зьезд сельсаюзьнікаў з д-рам Станкевічам на чале — гэта „зьезд Луцкевіча“. Коратка кажучы: вінавацьць і д-ра Яна Станкевіча, і большасьць сяброў Сельсаюзу, імі-ж, арганізаванага,—таксама ў камунізьме.

Тактыка гэта ведама добра кожнаму актыўнаму беларусу на вёсцы: яе тамака тасуюць паны каманданты паліцыі і агенты дэфэнзывы, вінавацячы ў камунізьме і за агітацыю за родную школу, і за складаньне дэкларацыяў на беларускія школы, і за выпісываньне беларускіх газэт, і за чытаньне беларускіх кніжак і г. д. Дык вось, каго насьлядуюць Ярэміч з Рагуляй, якім „разграшэньне“ ў-ва ўсіх здрадніцкіх пастулках дае „войчанька“ духоўны—кс. Станкевіч.

Цікаўна, што той-жа кс. Станкевіч, падгалоскамі якога зьяўляюцца Ярэміч і Рагуля, яшчэ так нядаўна запрашаў д-ра Яна Станкевіча на становішча.,. **старшыні Хадэцыі!** А вось цяпер і гэты недайшоўшы павадыр ксяндзоўскае партыі (ад гэнае чэсьці сам ён адмовіўся!) абвяшчаецца... „камуністам“.

Пфуй, сьмярдзючкі!

**За Польшчаньне Вільні будзем плаціць усе!** Яшчэ за расейскіх часоў у Вільні на Пагулянцы быў пабудаваны польскі тэатр — дзеля разьвіваньня на „Крэсах“ польскае культуры і мастацва. Вось-жа гмах гэтага тэатру, пабудаваны за прыватныя грошы, уласьнікі яго падаравалі месту Вільні, але з тым варункам, каб у гэтым гмаху адбываліся спэктаклі, лекцыі, сабраньні і інш.—выключна ў польскай мове, ды каб гэтак быў захаваны нацыянальна-польскі характар гэтае ўстановы.

Усё гэта было-б вельмі пекна з пункту гледжаньня польскага зьвярынага нацыяналізму, які лічыць, што гмах тэатру „стрэфіўся-бы“, калі б у ім—да прыкладу — адбыўся беларускі спэктакль, або жыдоўскі! Але-ж вось бяда, што за гэты „дар“ дзеля паланізацыйных мэтаў прыдзецца месту—знача, не адным палякам, а і беларусам, жыдом, літвіном і інш.,—плаціць ажно 167 тысячаў злотых у скарб дзяржавы, як падатак ад даравізнаў...

Паны радныя: няўжо-ж і ў новай радзе будзе праваддзіцца гэтак цынічна палітыка кармленьня польшчыны—коштам паловы няпольскага насяленьня места?!

**Надужыцьці ў Віленскай дырэкцыі чыгунак.** Выкрыты надужыцьці, робленыя начальнікам дарожнага аддзелу панам Быстшановскім. Пан Быстшановскі „завешаны“ ў сваіх чыннасьцях. Сьледзтва вядзе вышэйшы ўрадовец міністэрства чыгунак з Варшавы.

## Да нашых падпішчыкаў.

Пасылаючы рахункі, просім пав. грам. Падпішчыкаў урэгуляваць падпісную плату.

Хто да 1 кастрычніка не ўрэгулюе падпісной платы, або ня прышле паведамленьня, што грошы будуць прысланы, таму высылка газэты будзе спынена. **Адміністрацыя.**

## Ці-ж нявольнік?

Пасьвячаю сябру
Арсеню К . . . . . . му
(вязьню).

У вочы чорныя глянь, мой няздара:
Ці-ж нявольніцкіх вочаў пагляд
Так шугае іскрыста пажарам?
Ты мыляешся горка, мой брат!
Глянь у вочы мае, як ірдзяцца
Сямі-фарбнай вясёлкі агні.
Ці-ж ты можаш яшчэ сумляваца,
Што для Волі мігочуць яны?
Сьмейся, брат, рагачы над няволяй:
Мы — арлы, і няма для нас пут!
Нам і крыльлі растуць, каб прывольле,
Як нажом, рэзаць мглу злых пакут.
Прылажы да грудзей маіх руку:
Чуеш? Як цэпам малоціць, стучыць
Маё сэрца... Ці-ж на муку
Так надзейна, як стальлю, зьвініць?
Глянь на рукі мае маладыя:
Ці-ж то ім насіць цэпку — ланцуг?
Эх, вы, грудзі мае маладыя,
Ці-ж нявольніцкі носіце дух?
— — — — — — — — — —
Сьмейся, брат, рагачы над няволяй:
Мы — арлы, і няма для нас пут!
Нам і крыльлі растуць, каб прывольле,
Як нажом, рэзаць мглу злых пакут...

Лукішкі, 19.VI 1927 г.

**Алесь Салагуб.**

## Выбары у самаурады.

### Перамога „Грамады“.

„Слово“ падае гэткую інфармацыю з Горадзенскага павету:

„16 г. м. адбылося першае паседжаньне новаабранага горадзенскага павятовага сойміку. Прысутных было 48 сяброў. Склад сойміку ня суліць добрых (для каго?!) надзеяў. Пераважаючая лічба сяброў-беларусаў апанавана „Грамадой“.

„На пачатку паседжаньня Міхал Трусь з Азерскае гміны запрапанаваў, каб пратаколы паседжаньняў сойміку былі пісаны побач папольску і пабеларуску. Прапазіцыя гэта была ўхілена старостай Бенькевічам, які старшынстваваў на паседжаньні.

„Перайшлі да выбараў Павятовага Выдзелу (Управы). Пададзены былі агулам 22 кандыдатуры. У выніку галасаваньня аказаліся выбранымі ў павятовы выдзел наступныя асобы: Рыгор Цецько з Скідэльскае гм., Максім Здановіч з Мастоў, Сьцяпан Дужэй з Галынскае гм., Вінцэнты Казімерчык з Гожскае гм., Ян Шкута з Лашанскае гм., Юзэф Седзеневскі з Гудзевіцкае гм. Гэтак і павятовы выдзел таксама апанавала „Грамада“, сярод сяброў выдзелу толькі два палякі-каталікі“.

Судзячы з тону заметкі „Слова“, трэба спадзявацца спробы адміністрацыі разагнаць гэты „грамадаўскі“ самаўрад.

### Разгон гміннае рады ў Мэйшаголе.

Як падае „Слово“, загадам ваяводы Рачкевіча гмінная рада ў Мэйшаголе, Віленскага пав., разьвязана. Загад аб распуску рады падае, як падставу, тое, што быццам „абаламучанае перадвыбарнай агітацыяй“ насяленьне выбрала ў раду неадпаведныя элемэнты, а ў некалькіх выпадках — проста шкодныя (—для каго?!).

Новыя выбары вызначаны на гэткія тэрміны: выбары паўнамоцнікаў у абводах — 9 кастрычніка, выбары радных—30 кастрычніка.

## З жыцьця Горадні.

### Палітычная крамка ў гатэлі Брыстоль.

8 верасьня с. г. у м. Горадні распушчана мястовая рада. Новыя выбары абвешчаны на дзень 9 кастрычніка с. г. Вестка гэта хутка абляцела ўвесь горад, уносячы ажыўленьне сярод грамадзянства, якое начало ладзіць розныя нарады, канфэрэнцыі, сходы, тварыць розныя ўгрупаваньні. Трэба адзначыць, што гэтага дня даўно чакалі ня толькі працоўнае грамадзянства, якое глядзела на старую раду, як на непатрэбны баласт, ці цяжар, які даўно трэба было выкінуць за борт жыцьця, але з вялікім нецярпеньнем чакалі і розныя палітычныя спэкулянты, якія на гэтым інтарэсе, г. з. выбарах, могуць зашыбіць манэту. Дык вось на горадзенскім бруку зьявіўся п. Ярэміч, той самы Ярэміч, які ў Вільні меў за заданьне адцягнуць працоўных беларусаў ад агульна-работніцкага аб'яднаньня, і пачаў вербаваць такіх асоб, якія маглі-б выканаць яго даручэньні і быць паслушнымі на кожнае скіненьне пальца. Прыказка наша кажа „было-б балота, а чэрці заўсёды знойдуцца“, так сталася і тут. П. Ярэміч успомніў аб сваім старым, добра ведамым гаражанам і вяскоўцам, прыяцелі, Якімовічу, асобе скампраматаванай ў-ва ўсіх галінах палітычнага жыцьця. Пан Мікалай на прапанову п. Ярэміча **„рад стараться, только пожалуйте авансик“.** У гэтым затрымкі, як відаць, ня было. Знайшліся грошы, знайшлося і памешканьне ў гатэлі Брыстоль: **„мы моl люди не простыя“.** Вось гэтая кучка распачала сваю агідную працу ў Горадні для таго, каб разьбіць адзіны работніцкі фронт да выбараў у мястовую раду.

Горадзенцы беларусы, падумайце добра, што выбарная кампанія Вам можа многа даць і наадварот многа адняць, а мы павінны ведаць, што магістрат—гэта наш самаўрад, у якім павінны быць нашы людзі з чыстай душой і памысламі, людзі, якім мы давяраем і якія будуць стаяць у абароне інтарэсаў горадзенскай беднаты і рабочага, а ня тыя

